ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

7 • 2018
ліпень

Аляксандр КАРШАКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Алег ГУЦОЛ.

## Думкі ўголас

Дурасць бязмежная, добра яшчэ, што яна абмежавана колькасцю дурняў.

**Лепш святло ведаў, чым электрычнае асвятленне.**

Калі выкінуць дурноту з галавы, дык у некаторых там нічога не застанецца.

**Стаяць на варце закону можна і без зброі.**

Калі душа гарыць, пажарных не выклічаш.

**Людзі ўмеюць круціць хвастом і не маючы яго.**

**Пераліваючы з пустога ў парожняе, можна шмат што парасплюхваць.**

Глыбокую думку можна ўтапіць паверхневымі адносінамі да яе.

**Некаторыя замест таго, каб завязваць гальштук, закладваюць за каўнер.**

Ход думак не заўсёды паспявае за ходам жыцця.

**Грошы прыходзяць і адыходзяць, а жаданне іх мець заўсёды застаецца.**

Жыццё — як тая рыбалка: усе мы на кручку.

**Некаторыя жанчыны і без склерозу не памятаюць, колькі ім гадоў.**

Дурасць адрозніваецца ад мудрасці не толькі яе ўспрыманнем.

**Якасць асобы можа вызначацца колькасцю выпітага алкаголю.**

Грошы любяць цішыню, але чалавек, які іх мае, не супраць павесяліцца.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*









Пётр КОЗІЧ x 3.

Нічыпар ШЭРАНЬКІ

# Прызнанкі-нечаканкі

## Алігарх

Нафтавы басейн да рук
Я прыбраў.
Не гнуся ў крук.
Сам сабе ўладар і пан:
Ем са смакам марцыпан.
Не сяджу на нарах –
Смягну на Канарах.

## Работніца гандлю

Зранку ўсмак папрацавала:
Вадой мяса шпрыцавала.
Фасавала сыр таксама –
Недавагі па пяць грамаў.
І тухляціну ў бакоўцы
Замачыла ў марганцоўцы...
А яшчэ – занятак кляты,
Без высакароднасці:
Пераклеіць зноўку даты
Тэрміну прыгоднасці.

## Бензазапраўшчык

Эх, які мой клопат маркі
Раніцай чаканай:
Даць усе бензіну маркі,
Ды з адзіна таннай!

## Пенсіянер

Вось і пенсію далі
За былыя мазалі.
Не на мяса, не на сыр,
А на хлеб і на кефір.
А мізэрная астача –
Пракаціцца каб на дачу.




# ДАРАГІЯ ГРЫБЫ

*Міні-фельетон*

Кірыл Міхайлавіч быў заўзятым грыбнікам. І як толькі заўважыў, што на рынку бабулькі пачалі прадаваць першыя лісічкі, вырашыў: трэба рушыць у лес.

– Чаго ты туды папрэшся? – сварылася жонка. – Сухмень такая, што расці нічога не хоча, а гэтаму абы пабадзяцца сярод бяроз.

– Нічога ты не разумееш. Гэта азарт! Тым больш, сама ж нядаўна казала, маўляў, супчыка б грыбнога зараз. Усё ж для цябе, любая, – абдымаючы жанчыну, прыгаворваў Кірыл Міхайлавіч.

– Вось хітруга, – смяялася тая. – Абы толькі з дому з'ехаць і грошы на дарогу патраціць.

– А наконт апошняга ў мяне ёсць план, так што не хвалюйся, – падміргнуў мужчына. – Пяць гадоў назад адзін мой знаёмы забыўся ў нас пасведчанне інваліда 3-й групы. Я адарваў фотакартку, прыклеіў сваю, выправіў тэрмін дзеяння, потым паскроб лязом і замяніў лічбу «тры» на «два». Цяпер у мяне на руках ёсць дакумент, які дазваляе мець льготу на паездкі ў гарадскіх аўтобусах або прыгарадных цягніках. Вось глядзі, як атрымалася.

Кірыл Міхайлавіч адчыніў шафу і прынёс пасведчанне.

– Я нават не ведаю. Добра, канешне, што ты імкнешся да эканоміі, але ж гэта парушэнне закону, а калі цябе зловяць? – занепакоілася жонка.

– Ат, я ўжо разы тры так катаўся, ніхто з правяраючых не заўважыў падману, – адмахнуўся мужчына.

З гэтымі словамі ён пачаў збірацца ехаць у грыбы. З добрым настроем праз гадзіну ўжо сядзеў у электрычцы і разгадваў сканворды. Знянацку ў вагоне з'явіліся кантралёры-рэвізоры, якія павольна пачалі правяраць білеты ў пасажыраў. Калі падышлі да Кірыла Міхайлавіча, той ужо напагатове трымаў пасведчанне.

Супрацоўнік чыгункі пільна ўгледзеўся ў напісанае на паперы, потым падазваў напарніка, той таксама з цікаўнасцю зазірнуў у пасведчанне. Яны пашапталіся, потым адзін з іх прамовіў:

– Паважаны, у нас ёсць падазрэнне, што вы прад'явілі падробны дакумент. Таму мы яго канфіскуем, а вас просім прайсці разам з намі...

Далей за справу ўзяліся супрацоўнікі міліцыі. Пасля праверкі была ўзбуджана крымінальная справа, якую накіравалі ў суд. Там мужчыну вызначылі пакаранне – штраф у памеры 30 базавых велічынь, а гэта, між іншым, 735 рублёў.

Вельмі падобная гісторыя адбылася нядаўна з мужчынам у Дзяржынскім раёне. Той таксама адправіўся па, мабыць, самыя дарагія грыбы ў сваім жыцці. Вось толькі ці каштавалі яны страчаных нерваў і грошай на штраф? Як лічыце?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Аляксандр ШМІДТ.




Алег ПАПОЎ.

# ХТО СПРАБУЕ ЗАВАЯВАЦЬ БЕЛАРУСЬ?

*Фельетон*

Ускраек лесу. Побач разгарнулася шырокае травяное поле, перарэзанае пасярэдзіне аўтамабільнай шашой. Жывапісная карціна, калі б не адна акалічнасць...

– Таварыш Сасноўскі, па вашым загадзе вашы памочнікі Атрутны і Пякучы прыбылі, – падняўшы галінкі, адчыталіся расліны.

– Бачу, не сляпы. Чакаю ад вас даклад з самай раніцы, а вы толькі пад абед з'явіліся. Можа, звольніць вас увогуле? Ну, хутчэй расказвайце, як праходзіць наш наступ? – рэзка матляючы лістамі амаль крычаў камандзір.

Памочнікі апусцілі галовы. Атрутны пачаў гаварыць першым:

– Пагодныя ўмовы нам спрыяюць. Дзякуючы гарачыні падраздзяленні баршчэўніка не толькі ўпэўнена трымаюць захопленыя тэрыторыі, але і адваёўваюць новыя надзелы. Нас актыўна падтрымліваюць з розных бакоў сябры. Так, з захаду Беларусі наступае атрад баршчэўніка Мантэгацці, а з поўначы – баршчэўнік Пярсідскага.

– Цудоўныя навіны! – звычна ўзрадаваўся Сасноўскі. – Ведаў, што мае добрыя таварышы падтрымаюць мой план па заваяванні Беларусі.

– Нашы браты квітнеюць і множацца! Як людзі не імкнуцца нас выкошваць і знішчаць, баршчэўнік усё роўна хутка адрастае! Мы паспяхова выцясняем звыклыя расліны гэтай мясцовасці. У прыярытэце захоп абочын дарог, закінутых палёў, пустак, хмызнякоў, зямель уздоўж ліній электраперадач, паркаў і сквераў гарадоў, а таксама лясных участкаў каля ручаёў і рэк, – адчытаўся Пякучы.

– Добра, малайцы. А ў якіх раёнах атрады маёй арміі найбольш прадуктыўныя? – запытаў камандзір.






– Давайце мы пакажам вам карту, – прапанавалі памочнікі і раскруцілі аркуш паперы. – На ёй добра бачна колькасць папуляцый баршчэўніка. Мы падлічылі, што зараз займаем каля 3000 гектараў зямлі.

– Хм... Значыцца, пакуль што наш від у большасці распаўсюджаны менавіта па Віцебскай вобласці? – прыглядзеўшыся, канстатаваў Сасноўскі.

– Па Ушацкім, Віцебскім, Гарадоцкім, Браслаўскім, Талачынскім, Мінскім і Лагойскім раёнах у нас самыя лепшыя паказальнікі, – заўсміхаўся Пякучы.

– Вы тут шчабечаце, расказваеце, як усё цудоўна, але ж мне данеслі правераныя падапечныя, што ў нас ёсць праблемы! – махаў вялізнымі лістамі і круціў галавой-суквеццем Сасноўскі.

– Не хацелі вас дарэмна хваляваць, але ў нас аб'явіліся моцныя праціўнікі. Супраць выступаюць людзі, – панура абвясціў Пякучы. – Яны імкнуцца не толькі паменшыць папуляцыю баршчэўніка, а ўвогуле знішчыць нас. Калі раней чалавек змагаўся з намі касой ды лапатай, то зараз пачынаюць травіць хіміяй! У той жа Віцебскай вобласці плануюць выдзеліць на гербіцыды каля 450 тысяч рублёў.

– Як такое магчыма? – пачаў рваць на сабе лісты Сасноўскі. – Ды я вас зараз пераламаю і карэнне на сонцы высушу! Гэта ж можа прывесці да знішчэння маіх планаў.

– Не хвалюйцеся вы так, – паспрабаваў супакоіць яго Атрутны. – За адзін год усіх нашых братоў не знішчыць. Чалавечыя спецыялісты кажуць, што колькасць баршчэўніка

пачне зніжацца, калі 10—12 гадоў не даваць квітнець ні адной расліне. Тым больш варта толькі прапусціць адзін сезон барацьбы, і гэта адкіне ўсе іх дасягненні на дзясятак гадоў назад. Агульны поспех знішчэння раслін залежыць ад адказнасці кожнага землекарыстальніка. А я ведаю, што людзі лянівыя і будуць нядбайна адносіцца да нашых атрадаў.

Сасноўскі крыху супакоіўся:

— Я таксама на гэта спадзяюся, а пакуль рабіце ўсё магчымае, каб за лета заваяваць яшчэ больш тэрыторый. Хачу, каб імя баршчэўніка Сасноўскага наводзіла жах на ўсіх жывых істот!

— Слухаемся! — з гэтымі словамі Атрутны і Пякучы рушылі выконваць загад.

Яны марылі пра тое, што людзі не будуць звяртаць увагу на папуляцыю баршчэўніка, а калі з жахам зразумеюць, што ён апанаваў усе землі, будзе вельмі позна...

**Размову падслухала
Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Аляксандр ПЯТРОЎ.




Аляксандр ШМІДТ.




Пётр КОЗІЧ.

## Стэрэатып і рэчаіснасць

Дзяўчат, якія цураюцца замужжа, часта палохаюць, што яны ў сталым узросце завядуць сорак катоў і будуць іх гадаваць. Адны смяюцца з такога стэрэатыпу, другія робяць усё магчымае, каб займець запаветны пярсцёнак на пальцы, а трэціх зусім не пужае перспектыва жыць з адным або некалькімі пухнатымі сябрамі. Але сярод апошніх сустракаюцца жанчыны, якія імкнуцца не толькі пацвердзіць такое меркаванне, але і перабольшыць яго.

Так, жыхарка сталіцы трымала ў аднапакаёвай кватэры ажно... 76 катоў! Вось толькі даглядаць яна іх не хацела, тым больш стэрылізаваць котак. Суседзі неаднаразова скардзіліся ў праваахоўныя і сацыяльныя арганізацыі на антысанітарыю, шум і колькасць жывёлін.

Неўзабаве супрацоўнікі службы адлову прыехалі па братоў нашых меншых і перавезлі іх у пункт часовага ўтрымання «Фаўна горада». Частку пухнатых сяброў разабралі валанцёры, астатніх жа чакала зусім сумная перспектыва.

Жанчыне прад'явілі абвінавачванні па артыкуле «Парушэнне правілаў утрымання хатніх і (або) драпежных жывёл». Які будзе вердыкт, пакуль невядома, але спадзяёмся, што ёй забароняць трымаць увогуле любых хатніх гадаванцаў.




## Крылатае пакаранне

«Чаму людзі не лётаюць так, як птушкі?» — пыталася гераіня твора А. П. Чэхава. І сапраўды, калі б у чалавека былі крылы, то вы толькі ўявіце, як прасцей было б жыць. Не патрэбны былі б аўтамабілі ці грамадскі транспарт. Некалькі ўзмахаў — і ты ўжо ў патрэбным месцы. Таму некаторыя людзі не толькі зайздросцяць такой асаблівасці птушак, але і імкнуцца на ёй зарабіць грошай.

Мужчына з Мінска залез у гнёзды ястрабаў і забраў з іх птушанят. Потым праз аб'яву вырашыў нарабаванае прадаць. Пакупнік знайшоўся хутка. Вось толькі злодзей і падумаць не мог, што набыць птушанят вырашыла супрацоўніца арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны». Мінчаніна затрымалі, драпежнікаў канфіскавалі і ў хуткім часе вярнулі ў дзікую прыроду.

Зараз яго чакае адміністратыўны працэс і штраф у памеры 70 базавых велічынь. Як лічыце, такое пакаранне «падрэжа крылы» правапарушальніку?

## Алкагольныя фантазіі

«Гвалтуюць!» — крычала ў тэлефонную трубку жанчына з вёскі Вілейскага раёна. Міліцыянеры імгненна выехалі на выратаванне. Вось толькі калі яны прыехалі на месца, ніякіх слядоў барацьбы не ўбачылі, а абвінавачаны мужчына мірна соп на канапе.

Як пазней высветлілася, 68-гадовая жанчына з двума «сябрамі» піла ў сваім доме гарэлку. Потым адзін з іх заснуў. Пасля некалькіх спроб разварушыць сабутэльніка жыхарка Вілейшчыны патэлефанавала ў міліцыю. Думала, што супрацоўнікі праваахоўных органаў хутчэй прыедуць, калі расказаць пра гвалт, і выведуць мужчыну.

Яна нават падумаць не магла, што паклёп, ілжывы выклік міліцыі і абвінавачванні ў цяжкім злачынстве проста так не даруюць. Па гэтых правапарушэннях узбудзілі крымінальную справу. Адбыўся суд, які вынес вердыкт: год «хатняй хіміі» і прымусовага лячэння ад алкагалізму. На наш погляд, вельмі справядлівае пакаранне, якое можа стаць добрым прыкладам для ўсіх фантазёраў.




Пётр КОЗІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Прыкмета старасці

Старэем, браце,
Безумоўна.
І іншых
Не знайсці прычын
Таго, што стала
Усё роўна,
З кабетай спіш ты
Ці адзін...

## Горшае свет

— Горшае з гадамі, сват,
Свет гэты, —
Скардзіўся дзед Клім
На загуменні. —
Горшымі зрабіліся
Кабеты,
Бо да іх
Мяне ўжо цягне меней.

## Другая песня

Адышла вясна,
За ёю — лета,
І я ўжо
Па верасні сумую...
Кажаце,
Што песня мая спета?
А нічога!
Зацягну другую!

## Малады пенсіянер

Хаця і б'юць
Гады пад дых —
Мяркую
На такі манер:
Ты, кажаш,
Любіш маладых?
Я ж — малады
Пенсіянер!

## Паласкоча бок...

— Як ні горка —
Старасць наступае, —
Скардзіўся равеснікам
Змітрок. —
Чорт у рэбры
Болей не штурхае,
Толькі часам
Паласкоча бок...

## Сакрэты паэтаў

Шмат у паэзіі
Сакрэтаў,
Іх раскрываць
Не кожны ўмее.
Паэты пішуць
Для паэтаў —
Ніхто іх больш
Не разумее.

## Без натхнення

Няма ў тым
Сумнення,
Скажу
Без вагання,
Што верш
Без натхнення —
Як шлюб
Без кахання.

## Крытык

Прызначэнне ўжо такое
Крытык мае —
Ён паэтавы памылкі
Выкрывае.
Ды ахвота
І сваё пытанне ўставіць:
А як крытык схібіць,
Хто яго паправіць?

## Пазычыўшы радок...

У класіка
Пазычыўшы радок,
Адвечным даўжнікам
Стаць не баюся:
Глядзіш, міне
Адзін-другі гадок —
Сам стану класікам
І разлічуся.

## Вінаваты жанр

Сусед-раманіст,
Хоць і не Дон Жуан,
Даўно з адной дамаю
Круціць раман.
Залётам маім
Сціслы жанр вельмі шкодзіць —
Ў каханні ўвесь час
Карацелька выходзіць.

## Праўда і ісціна

Каб не зблытаць
Тую з гэтай, я
Так заўжды
Адрозніваю іх:
Праўда часта
Ў кожнага — свая,
Ісціна ж заўжды —
Адна на ўсіх.

## Бедны і багаты

Вам скажа нават
І аскет заўзяты,
Які на грошы
Пазірае хмура:
Багаты дурань —
Ўсё адно багаты,
А бедны дурань —
Усё роўна дурань.

Ганад ЧАРКАЗЯН

# Асёл і Ліса

*Іранеска*

На двары свайго гаспадара мірна скуб травіцу Асёл. Здавалася, што ў свеце ўсё створана для шчасця жывёлы: сонца, цяпло, сакавіты корм. Еш на здароўе і радуйся жыццю!

Такія асліныя думкі абарвалі словы прывітання:

– Добры дзень, брат Асёл! Няўжо ты зноў псуеш зямлю?

Той азірнуўся і ўбачыў хітрую пысу Лісы.

– Добры дзень, паважаная! Ну, пра братэрства ты, вядома, загнула. Гэта, па-першае. Па-другое, зямлю я не псую, а ачышчаю ад пустазелля, каб трава добра расла. А па-трэцяе, гэта ты шкодзіш, бо крадзеш курэй майго гаспадара.

– Не хацелася пакрыўдзіць цябе, Асёл. Звычку такую пераняла ад людзей. Яны ж так кідаюцца адзін на аднаго, сварацца, – апусціўшы галаву, прамовіла Ліса.

– Гэта іх чалавечая парода, тут нічога не зробіш, – канстатаваў Асёл.

Ён пільна прыгледзеўся да сваёй рыжай суразмоўцы і заўважыў, што ў яе хвост неяк звернуты набок. Здзіўлена запытаўся:

– Што з табой здарылася?




Пётр КОЗІЧ.

– Людзі надта злосныя, і ўсе непрыемнасці ідуць толькі ад іх, – пакрыўджана скардзілася Ліса. Вось і твой гаспадар весніцамі ледзьве не адарваў мне хвост. У нас з ім свае даўнія рахункі.

Асёл, вядома, мог паспачуваць рыжай, але знянацку ў яго галаве з'явілася нечаканая думка:

– Давай, Ліса, гляну на тваю рану, можа, чым дапамагу...

Тая лічыла сябе разумнай і здагадлівай, таму нават не заўважыла падвоху ў прапанове і ахвотна паказала свой паранены хвост.

Асёл падышоў, уважліва і доўга аглядаў пашкоджанні Лісы.

– Справы твае не вельмі, – сумна сказаў ён. – Твой прыгожы хвост хутка адваліцца.

Ліса ад нечаканасці ледзьве не заплакала, заплюшчыла вочы і ўявіла, як яна застанецца без свайго «ўпрыгожвання». Хліпаючы носам, запыталася:

– І як гэта здарыцца?

– Вельмі проста. Вось глядзі: я прыціскаю капытом твой хвост да зямлі. Табе будзе страшэнна балюча, і ён проста адарвецца...

І ў наступную хвіліну ўсё адбылося так, як і казаў Асёл. Ліса ад болю адскочыла ўбок, а хвост застаўся пад капытом Асла, які спакойна прамовіў:

– Аддам сваёй гаспадыні, а яна пачастуе мяне за гэта морквай. Магчыма, нават разынкамі. А што тычыцца тваёй звярынай адметнасці, то яна трымалася толькі на некалькіх валасінках. Ты ў першых жа кустах згубіла б сваю прыгажосць. А так будзе хоць нейкая карысць.

Стогнучы ад болю, Ліса прыгаворвала:

– Многа я чаго пабачыла. Але не ведала, што аслы цяпер сталі такімі жорсткімі, дасведчанымі і адукаванымі.

– Не крыўдуй, рыжая, часы цяпер іншыя. Каб ты ведала, як змяніліся і паводзяць сябе людзі, то не злавала б на мяне. Зараз кожны стараецца палепшыць толькі сваё становішча. Часта без усялякай маралі. Рынак і гандаль вырашаюць усё. Называецца гэта бізнесам. Прабач, але час ісці. Трэба паказаць гаспадыні тавар свежым.

Ліса глядзела яму ўслед і думала: «Асёл, напэўна, мае рацыю. Ён бліжэй круціцца каля людзей і ведае больш за мяне. Усё вакол змяняецца. Але жыць неяк трэба. Хоць без хваста мне будзе і складана, але ж зараз я буду менш прыкметнай. Можа, будзе прасцей красці курэй? У бізнесе трэба круціцца. Хто ведае, магчыма, стану добрай прадпрымальніцай. Час пакажа...»

Разважаючы такім чынам, Ліса павольна падалася да лесу...

**Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ.**

**Віктар РЭЧЫЦ**

# *Рана спісваць*

Мясарубкай электрычнай
Робіць жонка фарш мясны.
Спосаб гэты стаў прывычны,
Бо лягчэйшы за ручны.

А ў апошні час кабета
Наракае больш і больш:
– Пачала машына гэта
Працаваць намнога горш.

Прапускае слаба мяса...
Нож ступіўся ў ёй, відаць.
Можа б, ты нарэшце ўзяўся
Патачыць яго, Адась?

– Не такі вялікі спец я, –
Запярэчыць захацеў, –
Каб усё, што ёсць на свеце,
Падрамантаваць умеў.

Зрэшты, дай мне ножык, Аня,
Паспрабую падвастрыць.
Па бруску камбінаваным
Паваджу хвіліны тры.

Разабрала мясарубку –
А нажа там не відно.
Запусціла ў мяса руку –
Тое ж самае «кіно».

Зірк – вунь, на стале кухонным...
У далоні жонка – плясь:
– Не паставіла, варона!
Ты не смейся ўжо, Адась.

Я сказаў: «Як без дэталі
Мясарубка фарш дае,
То дарма ледзь не спісалі
Як няспраўную яе».





Аляксандр ШМІДТ х 2.

# Сучасная Пятроўна

*З натуры*

Здаецца, добра ведаю сваіх суседзяў, бо жывём у адным пад'ездзе даўно, але ў апошні час не перастаю пляскаць у ладкі за асобныя іх выхадкі. Здзіўляюць усе, ды яшчэ як! Вось хоць бы апошні факт. А ён, як вядома, – рэч упартая, ад яго нікуды не дзенешся.

У мяне выпрацавалася звычка прачынацца рана. Пацягнуся крыху ў ложку і адразу ж выходжу на балкон, каб памахаць рукамі і прысесці некалькі разоў, а заадно і падзівіцца, што ў двары робіцца. У гэты раз там усё было як заўсёды: застаўлены аўтамабілямі, надвор'е так сабе – ні вясна, ні зіма. Снег растаў, неба церушыць дробненькім, нібы прасеяным праз сіта, дожджыкам. Нічога новага. Толькі сабраўся тупаць у пакой, як убачыў суседку Пятроўну. «Куды гэта яна так рана навастрылася? Пачакайце! Дык яна ж і ўчора, і пазаўчора кудысьці спяшалася. Цікава, цікава», – падумаў я. Затым адчыніў акно, павітаўся і спытаў:

– Ты куды гэта так рана?

Суседка не чакала ад мяне такога пытання, таму крыху разгубілася, пакруціла галавой па баках і амаль паўшэптам асцярожна адказала:

– Ціха ты! Вярнуся і раскажу. Зараз няма калі. Магу спазніцца!

І шпарка пабегла на прыпынак, на хаду папраўляючы чырвоную вязаную шапачку. Мне нічога не заставалася, як моўчкі правесці яе вачыма. Але ж заінтрыгавала, што месца сабе знайсці не мог!

Вярнулася Пятроўна пад вечар, так супала, што я зноў быў на балконе. Рукі ў суседкі былі заняты рознымі пакетамі і каробкамі – ледзьве несла ўсё. Раз-пораз яна папраўляла пакункі, якія так і стараліся вываліцца на зямлю. Я памахаў ёй, напомніў тым самым, што чакаю тлумачэння наконт «потым раскажу».

Яна аднесла пакеты ў кватэру і адразу ж прыйшла да мяне. Паколькі я быў дома адзін, то запрасіў Пятроўну на чай.

– Толькі я да цябе ненадоўга. Хачу раней легчы адпачываць. У мяне і заўтра дзень абяцае быць вельмі насычаным. Таму важна не праспаць і мець свежую галаву!

– І дзе ж ты так працуеш? – падняў на Пятроўну зацікаўлены твар.

– А нікому не скажаш? – строга паглядзела на мяне суседка.

– Абяцаю!

– Глядзі ў мяне! А то я з табой пасваруся раз і назаўсёды, канкурэнты мне не патрэбны! – прыстрашыла жанчына і памахала перад маім носам пальчыкам. – Тады слухай. Ты ж ведаеш, што скончыла я пры абласной бібліятэцы курсы камп'ютаршчыкаў. Таму цяпер ад свайго ноўтбука не магу адарвацца. Але не проста там лухту розную чытаю, а знаходжу толькі тое, што мяне можа зацікавіць. Заўваж: у бліжэйшую да нас краму я ўжо другі месяц не хаджу. А навошта? Цяпер кожны дзень у нашым горадзе адчыняюцца новыя супермаркеты. Зразумеў? Слухай далей: першым пакупнікам даюць бясплатны тавар на выбар. У дзень дзве-тры такія прэзентацыі – і досыць! Такім чынам у мяне халадзільнік забіты харчамі, часам не ведаю, як зачыніць. Не прапускаю прэзентацыі і ў крамах гаспадарчых тавараў, там таксама падарункі раздаюць. Так што з пенсіі бяру толькі грошы на камунальныя паслугі. Астатнія кладу на працэнты ў банк, збіраюся махнуць у Анталію. Цяпер і на канцэрты не купляю білеты. А навошта траціцца? Там жа і артысты выступаюць. Апошні раз, напрыклад, Ухцінскага слухала.

Пятроўна дапіла чай, падзякавала, вытрымала кароткую паўзу і запыталася:

– Як думаеш, сусед, а навошта ў нашым горадзе развялося столькі харчовых і розных гаспадарчых крам амаль на кожным кроку? Адны зачыняюць, другія адчыняюць... Толькі шыльды мяняюць, не паспяваеш запамінаць. Ім рабіць больш няма чаго?

Каму гэта ім, я не паспеў запытаць. У яе раптам заспяваў мабільнік, і Пятроўна, на хаду размаўляючы, выкулілася з маёй кватэры. А я так і стаяў некаторы час каля дзвярэй, прыемна ўражаны пачутым. Хіба ж можна не ганарыцца такой сучаснай і прадпрымальнай, хоць і з пенсійным пасведчаннем, суседкай!

**Васіль ТКАЧОЎ,**
*г. Гомель.*


Аляксандр ПЯТРОЎ.

# Помста суседа

*Гісторыйка*

Падчас вучобы ў Магілёўскім педвучылішчы маю групу неяк адправілі на бульбу ў адну з вёсак Мсціслаўшчыны. Там нас рассялілі па дамах мясцовых жыхароў. Я размясціўся ў дзеда Ягора. Гаспадаром ён аказаўся руплівым, на агарод было прыемна зірнуць: розная гародніна, ягады і садавіна.

Але аднойчы раніцай уся дзедава праца пайшла прахам. Бурачкі, морква былі павырываны, кусты стаялі зламаныя. А пасярод усяго гэтага стаяў суседскі казёл і нахабна еў капусту.

Я пазваў дзеда Ягора, каб паглядзеў, што нарабілася. Думаў, што ён раззлуецца, пойдзе сварыцца, але той застаўся спакойны, быццам нічога не здарылася. Стары папрасіў дапамагчы злавіць жывёліну і патрымаць, пакуль ён збегае ў хату. Праз некалькі хвілін дзед вярнуўся з нажніцамі і фарбай. Затым абрэзаў шкодніку бараду, састрыг поўсць на баку і напісаў «злодзей». Са смехам мы разам выпхнулі казла на вуліцу.

Пасля гэтага здарэння прайшло некалькі дзён. І вось раніцай мы пачулі на падворку дзеда Ягора неверагодны шум. Хутка выйшлі і аслупянелі: паўсюль лётала салома, а на страсе хлява мітусіліся каты амаль з усёй вёскі. Неўзабаве каля хаты сабраўся натоўп зацікаўленых мясцовых жыхароў. З боку ад іх стаяў сусед, гаспадар казла, і голасна рагатаў.

Аказваецца, ён купіў у аптэцы дваццаць бутэлечак валяр'янкі і выліў яе на саламяную страху хлява. Каты адразу ж зляцеліся на пах, і пачалося прадстаўленне.

Дзед Ягор таксама пасміхаўся, а потым падміргнуў і шапнуў мне на вуха: «Мы так гадоў дваццаць адзін аднаго разыгрываем. Я ўжо нават помсту прыдумаў, хутка вазьмуся за здзяйсненне».

Шкада, але я паехаў на вучобу і не ўбачыў, што дзед Ягор задумаў. Мяркую, што ён бы мог расказаць шмат смешных гісторый...

**Генадзь СУКАЧОЎ,**
*Рэчыцкі раён,*
*в. Якімаўка.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.



# Церамок

(казка пра прыватнае жыллё)



Пабудаваў
вожык церамок…



Атрымаў
дакументы,
што церамок
яго ўласнае
жыллё…




Стаў ён шчасліва
жыць-пажываць
са сваёй жонкай
і дзвюма дочкамі…



Мінула
некалькі гадоў.
Падышло да церамка
вялізарнае будаўніцтва…




























*Комікс намаляваны па матывах жыццёвых абставін А. І. Алькіна. г. Мінск.*




Прывітанне, браце Вожык!

Вось адкажы, калі ласка, ці маеш ты пашпарт? А калі ён у цябе ёсць, то што там напісана? Пэўна, усё, што трэба, ці не?

А вось я неяк заўважыў пашпарт аднаго будаўнічага аб'екта, што знаходзіцца на скрыжаванні вуліц Панамарэнкі і Маўра, і вельмі здзівіўся. Бо такія прабелы могуць падштурхнуць сумленнага грамадзяніна на правапарушэнне.

Згадзіся, калі ў пашпарце сур'ёзнага аб'екта ўсе графы пустыя, то навошта грамадзяніну ў сваім дакуменце мець запоўненымі радкі «Імя», «Імя па бацьку», «Прозвішча», «Дата нараджэння» і гэтак далей. Нейкая дыскрымінацыя, табе так не здаецца? Я, можа, таксама хачу кожны дзень прыдумляць сабе новае імя. А чаму б і не! Сёння я Сяргей, заўтра Міхась, праз тыдзень Джон. У дакуменце ж нічога не напісана.

Як лічыш, калючы дружа: можа, працаўнікі будоўлі проста забыліся напісаць усе неабходныя даныя ці яшчэ прыдумляюць іх? Абавязкова гляну, як буду праходзіць побач, і раскажу табе пра змяненні.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




**Анатоль ЗЭКАЎ**

# *Вясёлыя вершы, або Песні без нот*

## Едзе ў сваты Пеця

Хлопец зухаваты,
Ўгору нос — не ўгледзець,
На трамваі пятым
Да каханай едзе.

Ах, як шмат дзяўчатак
У трамваі едзе,
У трамваі пятым
З табой побач, Пеця.

Чаму, бы на свята,
На трамваі едзеш?
Мо, што нежанаты
Ты пакуль што, Пеця?

А трамвай грукоча,
Едзе ледзьве-ледзьве.
Не спяшайся, хлопча:
Можа, не даедзеш...

## Каханне ў снах

Як засну — прыходзіш ты
З пацалункамі сваімі.
Ой, бяды тае, бяды —
Кожны ў сне мяне абдыме.

Ў снах мяне кахаеш ты
І завеш хутчэй да шлюбу.
Ой, бяды тае, бяды —
Кожны можа так, мой любы.

Як засну — смялееш ты,
Не саромеешся мамы.
Ой, бяды тае, бяды —
Вось наяве б гэтаксама!




Я прыпевачкі складаю,
Забываючы тугу,
Але колькі ні спяваю –
Наспявацца не магу!

* * *

Як убачу сваю Ніну,
Дык жывы – напалавіну:
Ад пачуццяў так трасе,
Як салому на страсе.

* * *

Дайце з горачкі спусціцца,
Ўпасці ў мяккую траву.
Дайце мілым наталіцца,
Каб адчуць, што я жыву.

* * *

У назойлівага Стася
Восем дзевак у запасе.
Тры з іх неўгамонныя,
Пяць – як мухі, сонныя.

* * *

Бронік нос свой задзірае,
З гонарам трымаецца.
Маладзіц перабірае –
Ўсё не нагуляецца.

* * *

Узаемнасці чакаю
Я дарма ад Даніка.
З гора паўгусі з'ядаю
Ды патэльню дранікаў.

* * *

Каб мне скінуць тры дзясяткі,
Я б ад радасці спяваў,
Насіў дзеўкам шакаладкі,
Пад балконам начаваў.

* * *

Не жыццё, а рай у нас:
Шмат ікры, сыроў, каўбас,
Навізны ды перамен...
Толькі жудасна ад цэн.

* * *

Глянь на вёскі, гарады –
Бачны перамены.
Паўцякалі хто куды
З вёсак джэнтэльмены.

* * *

А я вочкамі то ўбок,
То назад, то ўперад.
Не ўратуешся, кумок,
Як папаўся ў нерат.

* * *

У багатага Хамы
Дзве машыны, тры дамы.
Рэстаран купіў Хама,
Толькі жонкі ўсё няма.

* * *

Зжата жыта і пшаніца,
Канюшына сцелецца...
Будзе мілы мой жаніцца,
Калі бык ацеліцца.

* * *

Зарубі, кума, на носе:
Не люблю я адбіваць.
Лепей жыць на посным просе,
Чым чужое сала браць!

* * *

Наш Лявон калісьці марыў
Пра тэатр ды пра кіно.
Сам сядзіць да ночы ў бары,
П'е праз трубачку віно.

* * *

Сыдземся давай, Якуб,
Во дзе файны будзе шлюб!
Будзем жыць у будане,
Варыць клёцкі ў казане.

* * *

Наш задзірысты Мірон
У махлярстве чэмпіён.
Схлусіць – вокам не міргне,
Ды мяне не падмане.

* * *

Ем я сала, паляндвіцу,
І сама – як булка!
Няхай цесная спадніца –
Спаць са мной не мулка!

* * *

Да мяне хадзі, Фядот,
Напрамкі праз агарод.
Тапчы бульбу, буракі –
Хай зайздросцяць нам жанкі.

* * *

У аптэкі больш па лекі
Я, сяброўкі, не хаджу:
Ледзь расплюшчваю павекі –
На каханага гляджу.

* * *

Ад мяне дарэмна, любы,
Сёння адракаешся.
Калі будзеш сам бяззубы –
Вось тады пакаешся.

* * *

Я спяваю, весялюся
І працую на зямлі.
Каля хлопцаў скрозь вярчуся –
Мне старэць няма калі.

* * *

Маці доўга павучала,
Каб я хлопцаў не кахала.
А навошта ж тады жыць?
Можна з суму затужыць.

**Праспявала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

*Працяг. Пачатак у «Вожыку» №6*

Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ

# ЮЗІК

*Апавяданне*

* * *

З-за гэтай гісторыі вельмі разнервавалася суседка Зоя, якая ўсё сваё жыццё «хварэла» на надзвычайную цікавасць. А тут манах прыйшоў, папрасіў грошай, а потым збег. Яна месца сабе не знаходзіла праз такую загадку. І толькі адзіны чалавек, Юзік, асмеліўся адвучыць яе ад жадання сунуць свой нос у чужыя справы, прычым незвычайным спосабам.

Назбіраў ён у перабудовачныя часы каля двух мільёнаў сторублёўкамі. Заліў іх вадою з зялёнкай (па колеры афарбоўкі банкнотаў), а як прамоклі – паразвешваў сушыць. Заўважыўшы вечарам Зою, адчыніў дзверы. Праз іх добра было бачна, што з вугла ў вугал цераз усю хату на вяроўках вісяць... грошы.

– А казаў, што галадранец! – толькі і вымавіла Зоя, разгледзеўшы такую карціну.

Трэба было бачыць твар жанчыны! Зразумела, што Зоя клюнула-такі на прынаду.

Суседка тут жа праінфармавала міліцыю. Ахоўнікі парадку, канешне, друкарскую машынку для вытворчасці грошай у Юзіка не знайшлі, але накіраваліся па прапанове Кухаля да ... Зоі. У яе таксама друкарскай машынкі не было. А вось артэфакт мінулага стагоддзя ў выглядзе самагоннага апарату і дваццаць літровых бутэлек гарэлкі праваахоўныя органы ўбачылі. Усё знойдзенае было канфіскавана і знішчана, а суседка атрымала вялікі штраф. Пасля таго выпадку яна вельмі пакрыўдзілася на Юзіка, але нездаровая цікавасць да жыцця знаёмых у яе прапала назаўжды.

Тым часам Юзік задумаў новы розыгрыш. На гэты раз накіраваўся да свайго старэйшага траюраднага брата Паўлюка ў горад. Справа ў тым, што Кухаль успомніў: жонка сваяка была дужа раўнівай і нервавала мужа сваімі падазрэннямі ў нявернасці.

Брат раней падзяліўся з Юзікам сваёй сямейнай драмай. І Кухаль вырашыў яму дапамагчы, падключыўшы пры гэтым усю сваю фантазію...

Перш-наперш папярэдзіў Паўлюка, адбіўшы яму зашыфраваную тэлеграму: «Прыязджаю 15.07 19-40 вагон №7 Сустракай Твая каханая Марынка».

Яніна, братава жонка, тут жа ўчыніла таму допыт:

– Сяброўкі мяне папярэджвалі, маўляў, не адпускай свайго ў санаторый, там столькі спакуслівых жанчын, што нават самы адданы мужчына ў бабніка ператвараецца!

– Ну, што ты прыдумала, любая? Я ж толькі працэдуры наведваў, каб паправіць здароўе.

– Ну і як, паправіў? Канешне, Марынка штодня лячыла! Прызнавайся! Кот блудлівы! Ты наша сямейнае жыццё загубіў.

Яніна пачала кідаць у мужа талеркі. Яму з цяжкасцю ўдавалася ўхіляцца. Зрасходаваўшы баявы камплект посуду, раззлаваная жанчына адкрыла шафу і выпіла нейкую таблетку. Потым завязала мокрым ручніком галаву і з новай сілай пачала лаяць мужа.

Паўлюк імкнуўся рознымі спосабамі і хітрымі прыёмамі навесці масты з жонкай.

– Эх, Янінка! Злосць – самая бескарысная эмоцыя. Шкодзіць мазгам і сэрцу! Але, калі на тое пайшло, – сказаў ён як мага ласкавей, – не паеду я ў камандзіроўку, каб капейчыну зарабіць. І на станцыю тую не паеду сустракаць нейкую там Марыну. Ты ў мяне адзіная! Толькі ты!

– Не ўжо, каток, паедзем разам. Хачу сваімі вачамі ўбачыць тую «лекарку» і пацягаць яе за кудлы. Можа, тады не будзе блытацца з чужымі мужыкамі.

Цягнік пад'ехаў. Паўлюк і Яніна стаяць каля патрэбнага вагона. А з прыступак сыходзіць... Юзік.

– Прывітанне, дарагія! – абняў ён сваякоў. Пасля звярнуўся да братавай:

– А чаго ты па баках зыркаеш? Яшчэ кагосьці чакаеце?

– Яна Марынку сустракае! – ледзьве стрымліваючы ўсмешку, адказаў Паўлюк.

– Між іншым, тая, каго вы сустракаеце, прасіла мяне перадаць твайму Паўлюку, што яна затрымліваецца на дзень.

– Што? – са здзіўленнем закрычала Яніна.

– Дзякуй табе, брат! – абдымаючы Юзіка, ціха смяяўся Паўлюк. – Можа, хоць на які час правучыў маю жонку.

Гэтыя словы пачула Яніна. Імгненна падбегла да мужа ды ўрэзала аплявуху. Затым кінулася абдымаць і прыгаворваць:

– Вось я дурная! Прабач мне, любы!

– За мной не заржавее! – усміхаўся Паўлюк Юзіку.

І ўсе дружна рассмяяліся.

Юзік Кухаль быў удзельнікам яшчэ шматлікіх гісторый, але пра іх іншым разам.

*г. Маладзечна.*

**Казімір КАМЕЙША**

## Чарнічка

Вокам чорненькім праз мох
Чорнай пырскала смалою.
І ўстаяць ніхто не мог,
Кленчыў тут жа перад ёю.

Рукі, вусны апякаў, –
Ну, а ўкленчыў, дык маліся!
І цягнулася рука,
Каб яшчэ раз апячыся.

Ах, чарнічка-чараўнічка,
Паркалёвая спаднічка,
Аксамітавы кафтан,
Завяла мяне ты ў зман.

Цені чорныя снуюць,
Вусны чорныя таксама.
Келіх поўны мне нальюць –
Буду я шчаслівы самы.

Як чарнічка, і напой
Мае той жа чорны колер.
Дзіўнай слодычы такой
Я не піў яшчэ ніколі.

Дзіўным сном здаюцца дні,
Штосьці творыцца на сэрцы.
Ах, як зманліва звініць
У чарнічніку вядзерца!

Будзе лета чараваць
І згараць чарнявай знічкай.
Трэба замуж выдаваць –
Выспела даўно чарнічка!

## Ідэальны адпачынак

Я сумую, ледзь не плачу
Без утульнай нашай дачы.
Так здараецца заўсёды,
Як не еду на прыроду.
Зрэшты, плачу ўсё-ткі рэдка,
Бо люблю газон і кветкі.
І таму лячу на дачу
З любай жонкаю ў прыдачу.
Едзем на аўто французскім
Адпачыць па-беларуску.
Цешча нас ужо чакае,
Стол адразу накрывае.
Цесць усім дае адмашку,
Дастае гарэлкі пляшку.
Плённа ладзіцца «работа»
Ў час застолля аж да поту.
Часта пры сканчэнні «працы»
Цяжка з-за стала падняцца.
Нас арэлі выручаюць,
Скрыпам у цяньку люляюць...
Для мяне, скажу вам шчыра, –
Ідэальны адпачынак!

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*

## Пра плот, што нарабіў клапот

Шмат гадоў служыў мне плот,
Пільна вартаваў гарод.
Сёлета сказаў ён: «Годзе!»
Ды і ўпаў на агародзе.
Заадно – так недарэчы! –
Куст маліны пакамечыў.

Я крычу яму: «Лайдак!» –
Не падымецца ніяк.
«Уставай, – кажу, – харошы,
Я не маю зараз грошай,
Каб паставіць непрывычны
Плот сучасны, металічны!

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*



Алег ГУЦОЛ.




**Малюнкі з чэшскага часопіса «Дзікабраз».**



Здэнэк ЗАЙЧЭК



Іржы ДАНІЭЛ



– Можа, усё ж такі ты заб'еш авадня?

Пётр УРБАН



Вацлаў ЁХАНЭС



Іржы ПЕТРАК

# Чэшскі гумар

Пан Уладзімір купіў тэлевізар. Глядзеў некалькі дзён, а потым вырашыў вярнуць яго ў магазін:

– Такая тэхніка мне не патрэбна, бо часта паказвае фільмы, якія я ўжо бачыў.

* * *

Расказвае вопытны мужчына:

– Адзін з найлепшых спосабаў пачаць вясёлую размову з жанчынай – дастаць штопар і адкаркаваць бутэльку добрага віна.

* * *

– Скажы, калі ласка, што здарылася з тваёй жонкай? Чаму яна кульгае?

– Яна ахвяра сваёй самаўпэўненасці!

– Як гэта?

– Яна лічыць, што яе чаравікі павінны быць толькі трыццаць шостага памеру.

* * *

Пан Новак вяртаецца з адпачынку.

– Як правялі час? – пытаюць суседзі.

– Ведаеце, калі б там суп быў такі ж цёплы, як піва, віно такое ж старое, як курыца, а пакаёўка такая ж ветлівая, як дырэктарка гатэля, то адпачынак быў бы ідэальны!

* * *

Да старога халасцяка звяртаецца знаёмая жанчына:

– Пан Уладзімір, вы, напэўна, разважалі пра тое, што калі-небудзь усё роўна ажэніцеся?

– Так, безумоўна. Калі б я пра гэта не думаў, то даўно б ужо быў жанаты.

* * *

– Я са сваім мужам кожны тыдзень ламаю галаву, як лепш распарадзіцца грашыма, – скардзіцца пані Новакава. – Відаць, і вы таксама, пані Марыя?

– Не, я толькі раз у месяц пра гэта думаю, бо мой муж бярэ адразу ўвесь месячны аклад.

* * *

– Паслухай, Янка, гэта праўда, што Пятра арыштавалі?

– Так, Гонза. Яшчэ тыдзень таму.

– Але ж ён мне казаў, што паедзе на паўгода да брата.

– Так і ёсць! Яго брат таксама ў турме!

* * *

Да Дворжакаў прыйшлі госці. Бацька загадвае сыну:

– Збегай у склеп і прынясі дзве бутэлькі самага найлепшага віна!

Той вяртаецца і гаворыць:

– Гэта немагчыма! Сусед памяняў свой замок.

* * *

– Уяві сабе, Фанда, мне сказаў Кадлец, што ён дурань.

– Не хвалюйцеся, гэта яшчэ нічога не значыць, таму што Кадлец ні аб чым не мае свайго меркавання. Ён заўсёды паўтарае тое, што гавораць іншыя.

* * *

– Сусед, што вы робіце? – абураецца пан Ладзіслаў. – Вы ледзь не збілі мяне!

– Гэта сапраўды так. Прабачце, калі ласка, я толькі хацеў паказаць вам, што набыў новы аўтамабіль.

* * *

– Я вас так даўно не бачыла, пані Новакава, што здарылася?

– Ды паслізнулася на бананавай скурцы, павалілася і тры тыдні праляжала!

– Не можа быць! І вам ніхто не дапамог падняцца?

* * *

– Я пачаў вучыць чэшскую! Чытаю навіны ўжо на гэтай мове.

– І як табе?

– Разумею пакуль мала, але гучыць вельмі смешна!

**З чэшскай мовы пераклаў Міхась СЛІВА.**




# КАНСПЕКТ

*Гумарэска*

Падчас асваення граніту навукі адна з задач студэнтаў — весці канспект лекцый, бо ён абавязкова дапаможа пры падрыхтоўцы да кантрольных, залікаў і экзаменаў.

Хтосьці каліграфічна запісвае амаль кожнае слова выкладчыка, пры гэтым яшчэ і паспявае выдзяляць чырвоным фламастарам галоўнае. Другія імкнуцца да таго ж, але ніхто акрамя іх не можа прачытаць напісанае з-за почырку аўтара. Трэція толькі занатоўваюць тэзісы, прычым у вельмі скарочаным варыянце. Чацвёртыя, яны ж самыя лянівыя, вядуць запісы час ад часу.

У навучальнай установе N да ліку апошняй групы студэнтаў адносіўся і першакурснік Вадзік. На занятках ён больш займаўся не запісам лекцый, а ўпотай слухаў музыку ды бавіўся гульнямі на мабільным тэлефоне.

Неўзабаве надышоў і першы залік. Выкладчык быў строгім, час ад часу правяраў канспекты студэнтаў. Калі яны адсутнічалі, то да здачы заліку мог і не дапусціць.

Каб не ўзнікла праблем, Вадзік вырашыў за адзін вечар выправіць становішча. Ён папрасіў канспект у аднагрупніцы і сеў перапісваць ад першай лекцыі да апошняй.

Убачыўшы яго за такой справай, сябры па пакоі толькі заўсміхаліся.

— Ты так будзеш не тое што ноч, а тыдзень перапісваць, — заявіў сакурснік Сцяпан, калі ўбачыў, чый канспект «капіруе» сябар. — Анька ж кожнае слова Іванавіча занатоўвае.

— А дзе ж узяць канспект, у якім было б толькі самае галоўнае? — пацікавіўся Вадзік.

— Можаш у мяне, — прапанаваў Сцяпан. — У нашай групы залік толькі праз чатыры дні. А запісы ў мяне як трэба, толькі па сутнасці!

— Гэта ідэя, — пагадзіўся лайдак.

Праз хвіліну перад гультаяватым студэнтам ляжаў сшытак таварыша.

— Слухай, на ім жа не значыцца тваё імя. Можна ж не перапісваць тады ўвогуле. Давай, я яго заўтра з сабой вазьму, а вечар аддам.

Сцяпан адмаўляцца не стаў. І Вадзік хуценька, каб таварыш раптоўна не перадумаў, паклаў канспект у свой рукзак.

На заліку выкладчык прапанаваў усім выцягнуць білеты з пытаннямі і адказаць на іх пісьмова. Некага ён вырашыў выслухаць вусна.

Вадзік пачакаў, пакуль Іванавіч перад тым, як сесці на сваё месца, зробіць два ганаровыя кругі па аўдыторыі, і незаўважна дастаў канспект таварыша, каб адшукаць патрэбную інфармацыю. Знайшоўшы нарэшце што трэба, хлопец ніяк не мог прачытаць напісанае. Почырк Сцяпана быў такім, быццам замест яго пісала лапай курыца. Да таго ж дзе-нідзе былі дзіўныя і незразумелыя скарачэнні слоў. Студэнт паўглядаўся ў занатоўкі некалькі хвілін, стаў крыху разумець почырк і адразу ж пачаў ціхенька спісваць. Раз-пораз ён кідаў позірк на выкладчыка, каб той не запрыкмеціў яго за такой «незаконнай» справай. Там, дзе былі скарачэнні, малады чалавек вырашыў не ламаць галаву над пытаннем, што яны могуць значыць, а перапісваў як ёсць. Калі занатоўкі канспекта Сцяпана скончыліся, лайдак здаў работу і шчаслівы выйшаў з аўдыторыі.

Настаў момант агучвання вынікаў заліку. Студэнты, якія адказвалі на білет пісьмова, зайшлі ў кабінет. Выкладчык агучыў адзнакі. У спісе не аказалася толькі нашага героя.

Звярнуўшыся да яго, выкладчык сказаў:

— А вас, Пятроў, я папрашу затрымацца. На жаль, азбуку Морзэ я не вучыў, разбіраць шыфры не ўмею, таму хацеў бы, каб вы мне патлумачылі, што значыць у вашым пісьмовым адказе «сам-но», «д/за/д», «н.ст.», «т.зв.», «тт» і іншыя словы.

— Сяргей Іванавіч, вы ж ведаеце, скарачэнні — сябры студэнта, — знайшоўся Вадзік.

— А мне здаецца, Пятроў, што скарачэнні — мачыха вучэння. Вось калі вы іх добра вывучыце, тады і прыходзьце на залік. Але на гэты раз на вусны. Бо вашы геніяльныя запісы мне ніколі не расшыфраваць.

Што вечарам сказаў Вадзік сябру Сцяпану, не вядома. Але пасля такога выпадку хлопец стаў добрасумленна весці канспекты самастойна і прыдумляць свае скарачэнні-шыфры. Вось толькі на асобным лісце даваў тлумачэнні, што яны азначаюць. На той выпадак, калі хтосьці з аднагрупнікаў захоча перапісаць занатоўкі.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**
*Рэчыцкі раён, агр. Каравацічы.*

# Дзівакі

Руслана БОГУША


















# Пацалунак — ад смутку ратунак

(Да Сусветнага дня пацалунка, які адзначаецца 6 ліпеня)

*Крыжаванка*



**Па гарызанталі:**

**1.** «... – гэта пацалунак душы» (*выказванне амерыканскай пісьменніцы М. Антрым*). **4.** Прафесія чалавека, які 100 гадоў таму прапанаваў адзначаць дзень пацалунка. **9.** Драпежная жывёліна. **10.** «... – гэта цуд пераўтварэння пацалунка з задавальнення ў абавязак» (*жарт Х. Роўленд*). **12.** «Ой, пінжак, мой пінжак, \\ Парваныя плечы. \\ Чым такая ..., \\ Лепей спаць на печы» (*прыпеўка*). **13.** «Ты не поп, ты не дзяк, \\ Не цалуй мяне так, \\ Няхай мяне пацалуе \\ Маладзенькі ...» (*прыпеўка*). **15.** Трава, што вырасла ў той жа год на месцы скошанай. **17.** Карову б'юць за зык, а бабу за ... (*прыказка*). **18.** Любоў ды лад – не патрэбны і ... (*прыказка*). **21.** Чалавек, які адказвае за працу камп'ютараў і сервера (*размоўнае*). **22.** Салодкія вырабы з цеста. **27.** «Чырвоная ... \\ На купінцы спее. \\ Адзін мяне пацалуе, \\ А чатыры млее» (*прыпеўка*). **29.** З песняю і ... лягчэй воз вязе (*прыказка*). **30.** «Як у вас, так і ў нас: \\ Сярод хаты ... . \\ Дзед бабу цалаваў, \\ Аж губамі плямкаў» (*прыпеўка*). **31.** «У лес ... – чараўніцы \\ Нарэшце мы збіраць пайшлі» (*з верша Д. Пятровіча*). **32.** «Вецер вее, павявае, \\ ... хістаюцца. \\ Прыйдзе мілы, пацалуе – \\ Губачкі зліпаюцца» (*прыпеўка*).

**Па вертыкалі:**

**2.** «Сур'ёзнае разбураецца смехам, ... разбураецца сур'ёзным» (*выказванне Арыстоцеля*). **3.** Удзельнік вя-

сельнага абраду. **5.** Закаханым заўсёды ... кароткая (*прыказка*). **6.** Любіць, як кот ... (*прыказка*). **7.** «Кліча хлопец дзяўчыночку, \\ Ён не сваю, ды чужую: \\ – Хадзі, ..., пацалую» (*з беларускай народнай песні «Туман, туман пры даліне»*). **8.** ... з табою, бяда без цябе (*прыказка*). **11.** «Не дай бог, не дай бог \\ Са старым займацца: \\ Па калені ... – \\ Лезе цалавацца» (*прыпеўка*). **14.** ... – лепшыя лекі (*прыказка*). **16.** Краіна ў Паўднёва-Усходняй Азіі, дзе быў устаноўлены рэкорд бесперапыннага пацалунка, які доўжыўся 58 гадзін. **19.** Невялікая сажалка. **20.** «Пацалунак – лепшы спосаб спыніць ... жаночага красамоўства» (*выказванне М. Ларні*). **23.** «Цябе прытулю я, \\ Вячэру згатую, \\Румяныя ... \\ Сто раз пацалую» (*з беларускай народнай песні «У полі бяроза»*). **24.** На маладых белы ... трымаецца (*прыказка*). **25.** Духоўныя і культурныя каштоўнасці. **26.** «Супыніўся гнеды пад вярбой густой, \\ Цалаваў Алёну... над вадой» (з *песні «Ручнікі» на словы В. Вярбы і музыку М. Пятрэнкі*). **28.** Слова-выклічнік, якое ўжываецца гукапераймальна для абазначэння адрывістага гуку пры пацалунку.

**Адказы**

**Па гарызанталі: 1.** Усмешка. **4.** Дантыст. **9.** Звер. **10.** Шлюб. **12.** Вечарынка. **13.** Казак. **15.** Атава. **17.** Язык. **18.** Клад. **21.** Адмін. **22.** Здоба. **27.** Жураўлінка. **29.** Конь. **30.** Ямка. **31.** Чарніцы. **32.** Шыбачкі.

**Па вертыкалі: 2.** Смех. **3.** Шафер. **5.** Ночка. **6.** Сала. **7.** Дзеўка. **8.** Гора. **11.** Барада. **14.** Абдымкі. **16.** Тайланд. **19.** Ставок. **20.** Фантан. **23.** Губкі. **24.** Свет. **25.** Скарб. **26.** Янка. **28.** Цмок.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

## «Вучоны» гусак

Ідуць гусі чарадою
І гергечуць між сабою.
Каля рэчкі – указанне:
«Забаронена купанне».
Лепш не совацца ў раку,
Пасядзець на беражку.
Ды крычыць гусак «вучоны»:
– Што нам тыя забароны!
Мне ямчэй купаецца,
Дзе забараняецца.

Ідуць гусі ў чарадзе...
А гусак «вучоны» дзе?..

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*

## Павучкі












Ганна СІНІЦА
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ х 4.




Прывітанне, калючы дружа. Хадзіла я нядаўна па рынку, дужа хацелася набыць свежай садавіны ды гародніны, тым больш, што пачаўся сезон ягад. І вось падчас прагулкі паміж радоў заўважыла такую прапанову. Не тое, каб мне шкада было пяці капеек, але ўсё ж такі ўбачанае здзівіла. Адразу ж падумалася: «За запытанне не страціш ні абеду, ні снядання... Але грошы ўсё ж давядзецца заплаціць!»

Пасля такога нават неяк боязна зараз падыходзіць да прадаўцоў семак...

**Галіна КУЛІК,**
*г. Мінск.*




16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 7 (1558), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 07.07.2018. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,24. Тыраж 678 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61,
220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.





Алег ГУЦОЛ.

# Вожыкаўскі плакат

Аляксандр ШМІДТ.



